# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАУНЫХ БЕЛАРУСАЎ

Выдае Царкоўная Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі: "The Voice of the Church", 103 Wyckoff St., Brooklyn 1, New York, N. Y.

Tel.: Ulster 2-7552 — Цана 25 цэнтаў

*Нр. 3* — *Вялікдзень, травень 1956* — *Год 2.*

## БОЖАЙ МІЛАСЬЦЮ

### СЬВЯШЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ

Да ўсечэснога Духавенства, прэпадобнага Манашаства й усіх багалюбівых вернікаў нашых на Чужыне й на Бацькаўшчыне прабываючых

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*ХРЫСТОС УВАСКРОС!*

*„УВАСКРОС ІСУС ад гробу, як і прадсказаў, даруючы нам жыцьцё вечнае й вялікую міласьць"*

*(Вялікодны Канон).*

УЛЮБЛЕНЫЯ Й ДАРАГІЯ БРАТЫ Й СЁСТРЫ!

Мы цешымся й радуемся, калі цемру доўгае ночы пачнуць асьвятляць праменьні ўзыходзячага сонейка. Але, ці мы можам уявіць сабе тую радасць невымоўную, якую перажылі душы старазаветных праведнікаў у пекле, калі ў гэтай страшной цемры зазьзяла цудоўнае Боскае Сонейка, калі туды зыйшоў Хрыстос, Спасіцель наш, калі УВАСКРОС ІСУС ад Гробу й даравaў жыцьцё вечнае ў Раю тым, што так доўга чакалі на Яго! Бо-ж сьв. Пісьмо апавяшчае нам: „І магілы расчыніліся, і многа целаў памершых сьвятых уваскрэсла! І, выйшаўшы з магіл, па Уваскрасеньні Яго ўвайшлі ў сьвятое места і паказаліся многім" (Мц. 27, 52-53). Бо ХРЫСТОС УВАСКРОС, сьмерць і пекла перамог, і адкрыў дзьверы Раю для ўсіх, хто толькі ўвераваў у Яго.

Такую вялікую Любоў і Ласку Сваю праявіў Хрыстос да ўсіх людзей, выконваючы волю Айца Сваяго Нябеснага. Ён Свае Прачыстае Цела дазволіў падняць на Крыж, каб Сваею Чэснoю Крывёю выбеліць увесь род людзкі, перамагчы сьмерць і пекла, даравaць нам жыцьцё вечнае ў Царстве Славы Свае! Ён злучыўся з нашаю людзкаю прыродаю, каб ачысьціць і ўваскрасіць яе! Нашая сьмерць

перайшла на Яго, а Ягонае жыцьцё вечнае на нас! Прыняўшы сьмерць як Чалавек, Хрыстос зыйшоў у пекла як Бог і тут перамог найбольшае нашае зло — сьмерць, гэтую ўладу шатана над людзьмі Так вось Спасіцель наш скрышыў галаву гэтаму адвечнаму ворагу нашаму. Пераможаны на Галгофе, узяўшы на Сябе грахі й немачы нашыя, Ён на Трэйці Дзень устаў у сіле й славе Сваей як прадвечны Бог, як Пераможца й Спас наш!

Так споўнілася абяцаньне Бога Айца яшчэ Адаму й Еве ў Раю (1 Майс. 3, 14). Зазьзяла Боскае Сонейка ў цемры, зьнiклі зло й сьмерць, адкрыліся дзьверы Раю для людзей, Сын Божы ў нашым людзкім целе, як Першы з нас Уваскрос, сеў праваруч Бога Айца на Пасадзе Яго й усіх нас зь любоўю заклікае да Сябе! Бо Хрыстос ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС! Запраўды ўзьнесься на Неба да Айца Сваяго! Галгофа ня была канцом, як гэтага спадзяваліся ворагі Спасіцеля нашага, наадварот, яна стала ПАЧАТКАМ нашага гонару, нашае славы й радасьці, нашага шчасьця вечнага разам зь Ім!

Вось чаму Сьветлае Хрыстовае Уваскрасеньне нашая радасьць бясконцая! Вось чаму Уваскросшы Спасіцель наш зьявіўся Жонам Міраносіцам і сказаў ім: Радуйцеся! (Мц. 28, 9). Вось чаму Ангел зьявіўся Маці Божай і радасна ўсклікнуў: „Радуйся, Дзева, радуйся; радуйся багаслаўленая, радуйся прэпраслаўленая: Твой бо Сын УВАСКРОС на трэйці дзень ад гробу!" (Вялікодная Сьціхіра). Вось чаму й нашая радасьць сяньня бязьмежная, і ў гэтай радасьці сваей мы кажнаму выбачаем, кажнага як брата абыймаем і натхнёна прамаўляем: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Бо мы ведаем, што Хрыстос ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС, запраўды жыве з намі й вечна жыць будзе, як і сказаў: „І вось Я з вамі ўва ўсе дні да сканчэньня веку, амінь" (Мц. 28, 20). Ён праявіў Боскую сілу й славу Сваю ўжо на зямлі: у цудах Сваіх, на гары Фаворскай, на Крыжы, у Сваім Уваскрасеньні, пекле й у Узьнясеньні на Неба. Цяпер жа прабывае ў Сваей Славе Нябеснай, як Валадар Неба й зямлі. І гэтая Слава Яго, як вялікага Бога й Спаса нашага, асяніць усю ўсяленную ў часе Ягонага Другога Прыходу, і радасьць нашая тады будзе ўжо поўная, бязьмежная й вечная, калі толькі мы будзем мець Яго ў сэрцах сваіх тут на зямлі.

Таму, любыя дзеці нашыя, усюды й заўсёды будзем старацца, каб Ён, Хрыстос, Бог наш, стала прабываў у сэрцах нашых, бо-ж Ён: нашае Уваскрасеньне й Жыцьцё (Іо. 11, 25), бо-ж Ён нашая радасьць, пацеха, сіла й Перамога! Зь Ім няма смутку, няма бяды! Зь Ім мы заўсёды лёгка перанясем усе беды й цярпеньні нашыя, жыватворчаю сілаю Яго пераможам усіх ворагаў Яго й нашых, бо: „Пабожныя возьмуць зямлю ў валаданьне і жыць на ёй будуць навекі" (Пс. 38, 29). Таму, любыя суродзічы нашыя, цешцеся й радуйцеся ўсе: і вы на выгнаньні, і вы пакутнікі на Бацькаўшчыне, на катаргах, высылках, у пушчах і лясох, усе, усе, бо ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Усечэсныя Айцы й увесь наш пакутны Народзе Беларускі! Зь любоўю Божаю ў сэрцах нашых вітаем усіх вас зь вялікаю, сьветлаю радасьцю Неба й зямлі — УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ! Ужо праменьні Любові й Ласкі Уваскросшага Госпада нашага Ісуса Хрыста й Ягоная Жыватворчая сіла Перамогі над злом, няпраўдаю й несправядлівасьцю пачынаюць зьзяць над пакутнаю Зямелькаю нашаю! Ужо цемра злое няволі пачынае праясьняцца, ужо Уваскросшы Спасіцель наш гаворыць нам: Толькі веруйце, цьвёрда веруйце, ані не сумлявайцеся, і неўзабаве ўваскрэсьне вашая ўкрыжаваная й у гроб паложаная, любая Маці-Беларусь!

Таму, Браты й Сестры, палымянна любеце Яго, Бога й Спаса нашага, і — радуйцеся, бо Хрыстос ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС!

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца і Прычасьце Сьвятога Духа будуць з усімі вамі. АМІНЬ.

*† СЬМІРЭННЫ АРХІЕПІСКАП СЕРГІЙ*
*Глава Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

Дана Году Божага 1956
месяца травеня
Аўстралія-Амэрыка.

*† СЬМІРЭННЫ АРХІЕПІСКАП ВАСІЛІ*
*Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Епіскапаў БАПЦ на Чужыне.*

---

## ВЯЛІКОДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ

### ХРЫСТОС УВАСКРОС! УВАСКРЭСЬНЕ СВАБОДА!

Сьвята над Сьвятамі — Сьветлае Хрыстовае Уваскрасеньне мы абходзім селёта ў дзень сьв. Юрыя Пераможцы. Два Сьвяты, так велічныя, так радасныя й так любыя нашым Народам, якія цяпер, закутыя ў цяжкія ланцугі бязбожніцкага панявольніка, хоць і крывавяцца, але ня трацяць Веры ў Уваскросшага Хрыста й поўныя надзеі на скорае вызваленьне зь няволі слугаў шатана, бо — ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Зь любоўю Божаю ў сэрцах нашых заклікаем усіх Вас, паняволеных Беларусі, Украіны й Казакіі: цьверда, нязломна веруйце ў Перамогу Хрыста, Спаса нашага, над сіламі пекла, над злом, над няволяю, і неўзабаве ўваскрэсьне й на Зямельках нашых Праўда Божая й нашая, уваскрэсьне СВАБОДА!

Таму супольна й натхнёна ўсклікнем: „Уваскрасеньня дзень, прасьвятлімся таржаством, абыймем адзін аднаго й скажам: Браце, навет таму, што крыўду робіць нам. Усё выбачым дзеля Уваскрасеньня, і адзіным сэрцам і адзінымі вуснамі радасна запяем: ХРЫСТОС УВАСКРОС із мертвых, сьмерцю сьмерць паканаў, і тым што ў грабох, жыцьцё дараваў" (Вялікодная Сьціхіра).

Пасылаем Вам нашыя сардэчныя Архіпастырскія прывітаньні й багаслаўляем Вас, нашыя ўлюбленыя Браты й Сестры: Беларусы, Украінцы, Казакі, і ўсе праваслаўныя хрысьціяне.

ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС! РАДУЙЦЕСЯ!

† Архіепіскап ВАСІЛІ † Архіепіскап БОГДАН

---

## АСЬВЕТЧАНЬНЕ

Мы, з Ласкі Божае, ВАСІЛІ, Архіепіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне, і БОГДАН, Архіепіскап Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы, выконваючы сьвятую Волю Госпада Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста аб узаемнай любові й

 

АДЗІНСТВЕ ўсіх веруючых у Яго, а перадусім Праваслаўных хрысьціян дый іхных Сьвятых Цэркваў у сямы Адзінае Усяленскае Праваслаўнае Царквы, натхнёныя Духам Сьвятым, як браты ў Хрысьце, пастанавілі:

1) Устанавіць малітоўнае АДЗІНСТВА між сабою, сваімі Сьвятымі Цэрквамі, Духавенствам і Вернікамі, па слову Госпада нашага Ісуса Хрыста: „Няхай будуць усе АДНО" (Іо. 17, 21).

2) У выпадку патрэбы склікаць Сабор Епіскапаў для разгляду супольных царкоўных пытаньняў у нашых Епархіях з мэтаю ўзмацненьня й пашырэньня нашых Парафіяў, сьв. Евангельскае Навукі Хрыстовае й абароны сьв. Праваславія, асабліва цяпер у нашыя цяжкія часы, калі вораг яго „як леў рыкаючы ходзіць, шукаючы, каго праглынуць" (І Пётр. 5, 8).

3) Імкнуцца да пашырэньня нашага Адзінства праз іншых Праваслаўных Епіскапаў, якія вызнаюць Каноны Адзінае Сьвятое Саборнае й Апостальскае Царквы.

4) Узаемна памінаць сябе ў часе Службаў Божых у нашых сьв. Цэрквах і маліцца за дабро нашых многастрадальных братніх Народаў: БЕЛАРУСКАГА, УКРАІНСКАГА й іншых, па слову сьв. Апостала Якуба: „Малецеся адзін за аднаго" (Як. 5, 16).

5) Пашыраць і ўзмацняць узаемную любоў між вернікамі нашых сьв. Цэркваў, па слову сьв. Апостала Іоана: „Любоў ад Бога, і кажны, хто любіць, народжаны ад Бога" (І Іо. 4, 7).

Ласка, Любоў, Міласэрдзе й Шчодрасьці Прэсьвятое Тройцы — Бога Айца, Бога Сына, і Бога Духа Сьвятога будуць з усімі намі. Амінь.

Дана ў Ню-Ёрку ў Дзень Сьветлага Хрыстовага Уваскрасеньня 1956 г. Б.

† ВАСІЛІ
Архіепіскап Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царкви на Чужыне.

† БОГДАН
Архіепіскап Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы.

## РАДУЙЦЕСЯ!

„Сяньня ўсякі твор радуецце й весяліцца, бо ХРЫСТОС УВАСКРОС!"

У гэты велічны й слаўны дзень Уваскрасеньня Хрыстовага кажнае хрысьціянскае сэрца радасна ўсхваляванае, бо ж гэта наш вялікі дзень: ВЯЛІКДЗЕНЬ! Гэта нашае Сьвята над Сьвятамі, веліч якога натхнёна й радасна перадае нам нашая сьв. Царква ў сваіх цудоўных песьнях. Сум, жаль і цярпеньні зьнікаюць з сэрцаў нашых, бо душа нашая, поўная Веры й Любові да Госпада, у часе Вялікага Посту прыгатавананая да спатканьня гэтага вялікага Цуду Божага, падымаецца да вышыняў Нябесных, і разам з хорам Ангелаў і Праведнікаў натхнёна славіць Уваскросшага Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Якую-ж радасьць, адначасна трывогу, перажылі ў гэты слаўны дзень Уваскрасеньня Хрыстовага вучні Ягоныя! Яны-ж былі сьветкамі Ягонага ўкрыжаваньня й сьмерці, і якую незвычайную сілу духовую яны мусілі мець, каб уверавацъ у гэты вялікі Цуд Уваскрасеньня! Не дарма адзін зь іх, Фама, не паверыў гэтаму. І толькі тады, калі Уваскросшы Хрыстос ізноў зьявіўся сьв. Апосталам і сказаў яму: „Фама, дай сюды палец твой і паглядзі рукі Мае, дай руку тваю й улажы ў бок Мой", Фама ўсклікнуў: „Гасподзь мой, і Бог мой!" (Іо. 20, 25-28). Спалохаліся й тыя, што ўкрыжавалі Госпада, і падкупілі старожу, каб яна фальшыва сьветчыла, аднак, Славы Божае яны ўжо паўстрымаць не маглі.

Сваім Уваскрасеньнем Хрыстос поўнасьцю выявіў Сваю сілу Боскую й паказаў, што Ён — Валадар Неба й зямлі, жыцьця й сьмерці. Сваю й нашую сьмерць Ён перамог слаўным Уваскрасеньнем, зыйшоў у пекла й разьвеяў цемру яго Сваім Сьвятлом Божым. Так Хрыстос завяршыў Сваю Місію спасеньня роду людзкога, што стала асноваю нашае хрысьціянскае веры. Для хрысьціяніна ўжо няма сьмерці. Сьмерць фізычная гэта толькі наш пераход ад жыцьця зямнога ў жыцьцё вечнае! Дзякуючы гэтаму хрысьціяне першых вякоў з радасьцю ўміралі за Імя Хрыстовае. І сьв Апостал Павал кажа: „А калі Хрыстос не ўваскрос, дык і навука нашая дарэмная, дарэмная й вера нашая" (І Кар. 15, 14). Але, Хрыстос ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС!

Таму ў дзень Уваскрасеньня Хрыстовага мы духова абнаўляемся, прасьвятляемся, адзяваемся ў Хрыста й невымоўна радуемся, адзін аднаго абыймаем і натхнёна вітаем: ХРЫСТОС УВАСКРОС! Бо ў гэты слаўны дзень як дым зьнікаюць усякія крыўды нашыя, усякая варожасьць і нянавісьць, мы ўжо дзеці Божыя, браты ў Хрысьце, Каторы дзеля бязьмежнае любові да нас, уваскрасіў нашае людзкае цела, падняў яго на вышыні Нябесныя! І ў гэтай нашай невымоўнай радасьці Вялікадня лучыцца ўся Хрыстовая Царква — жывыя й памершыя, а таксама ўсякі твор, уся прырода, славячы сваяго Прадвечнага Тварца.

І асабліва нам, Беларусам, Уваскросшы Спасіцель наш апавяшчае: РАДУЙЦЕСЯ! Асабліва ў гэты слаўны Дзень Ён заклікае нас, каб мы не сумавалі безнадзейна па сваей укрыжаванай Бацькаўшчыне-Беларусі, а цьвёрда верылі ў жыцьцядайную сілу Яго, з радасьцю працавалі для дабра яе й сваяго Народу. Дзеля Свае бязьмежнае любові да нас Ён перамог сьмерць, дараваў нам жыцьцё вечнае, таму Ён напэўна выслухае нашыя шчырыя малітвы й багаславіць нашую ахвяру, зложаную на наш Ахвярнік — уваскрасеньне нашае Бацькаўшчыны. Будзем жа радавацца й весяліцца!

ХРЫСТОС УВАСКРОС! Уваскрэсьне й наша любая Маці-Беларусь!

а. МІХАІЛ

## ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАУНАЕ ЦАРКВЫ

(Працяг)

### ТВОРЫ Сьв. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

Успамінаны намі ўжо „Русскій Біографическій Словарь", бач. 649, зазначае, што невядомы аўтар „сказанія" гаворыць аб вялікім творы-кнізе сьв. Кірылы, якая ў свой час была вельмі пашыраная, супраць герэзіі „Феодора епіскапа". Гэты самы аўтар „сказанія" далей падае: „Андрею жа Багалюбскаму князю многа посланія написа ад еуангельских и пророчьских писаніи, яже соуть чтоми на празд-

 

 

ники господьскія, ина многа душеполезна словеса, яже к Богу малитви, и пахвали многим, ина множайшая написав церкви предасть. Канун великій о покаяніи ствари к Господу па главам азбуки. Се же и доныне творат верніи рустіи люде".

Такім чынам, аўтар „сказанія" гаворыць аб такіх творах сьв. Кірылы: 1) Словы на Гасподнія сьвяты, якія пасылаліся Андрэю Багалюбскаму, а таксама чыталіся ў церквах. 2) Іншыя, шматлікія, карысныя для душы пасланьні. 3) Малітвы. 4) Пахвалы многім. 5) Іншыя шматлікія творы, і 6) Пакаянны Канон, напісаны па главам азбукі (альфабэту).

Цяпер многіх гэтых твораў няма, яны страціліся сярод прыватных асобаў, бо-ж былі толькі ў рукапісах. Аднак, у сучаснай навуковай літаратуры, паводля Біограф. Слоўніка, ёсьць каля 70-ці працаў, якія складаюцца з 1) Павучальных Пасланьняў да Андрэя Багалюбскага. 2) Маральных трактатаў да манахаў, і 3) Малітваў. Да ліку павучальных твораў належаць: 1) На Неделю Цветоносну, от сказанія Евангельска. 2) На сьв. Пасху в светоносный день Воскресенія Христова от Пророчьских сказаній. 3) В нову Неделю по Пасце, о поновленіи Вскресенія и о артусе и о Фомине испытаніи робр Господень. 4) О снятіи тела Христова з креста и о Мироносицах, от сказанія Евангельскаго и пахвала Иосифу, в Неделю 3-ю по Пасце. 5) О Расслабленом, от Бытія и от сказанія Евангельскаго, в Неделю 4-у по Пасце. 6) О слепьци и о зависти жидов, от сказанія Евангельскаго, в Неделю 6-у по Пасце. 7) На Взнесеніе Господне. 8) На Сбор Святых Отец 300 и 18, от Святых книг указаніе о Христе Сыне Божіи, и пахвале Отцем Святого Никейскаго Сбора, в Неделю преже Пянтикостія. 9) Причту о человечьстей души по телеси, и о преступленіи Божіих заповедей и о вскресеніи телес человечь, и о будучом суде, и о муце.

Да гэтых самых твораў належаць: 1) Навука на 5-ую Нядзелю па Вялікадні, і 2) Навука на Сёмуху. Доўгі час сьв. Кірыле прыпісваўся твор: „Того-ж Кирила наказанье", і толькі праз некалькі стагодзьдзяў было сьцьверджана, што ён належыць сьв. Іоану Златавуснаму, што таксама гаворыць аб вялікім аўтарытэце сьв. Кірылы. 3) Слова „О исходе души и о восходе на небо" Ф. Калайдовіч таксама прыпісвае сьв. Кірыле, хоць некаторыя гісторыкі пярэчаць гэтаму. 4) Слова сьв. Кірылы „О небесных силах, чаго ради создан бысть чалавек на земли", зьмястоўная навуковая вялікая праца, як таксама й 5) „Сказаніе о черноризьчьстем чину, от в'тхаго закону и новаго, оного образ носяча, а сего делы с'вършаюча". Акрамя пералічаных, сьв. Кірыле належаць яшчэ іншыя павучальныя творы аб пашане да настаўнікаў, манахаў, аб значэньні посту й пад.

Акрамя таго, Малітвы сядміцы, па некалькі на дзень. Малітвы да ўсіх Сьвятых. Тры малітвы на разлучэньне душы з целам. КАНОН МАЛЕБНЫ, Памінаньне дый Іспаведаньне. Усе гэтыя Малітвы сьв. Кірылы праз многа стагодзьдзяў чыталіся ўсюды, як у Цэрквах, так і ўдома.

Той жа Біяграф. Слоўнік, бач. 654, зазначае: „Паводля мэтафараў, сымбаляў, алегорыяў дый пабудовы сказаў, неабходна сказаць, што сьв. Кірыла быў добра знаёмы з творамі сьвв. Рыгора Багаслова, Іоана Златавуснага, Кірылы Александрыйскага, Эпіфана Кіпрскага, Феафіклата й Клімента Баўгарскіх ды іншых Айцоў Царквы, а таксама з аўтарамі царкоўных песьняў. Аднак, усе творы сьв. Кірылы гэта ня копіі, а поўнасьцю самастойныя й арыгінальныя працы: усё тут лягічна павязана, нязвычайна прыгожа аформлена, усё творыць уражаньне закончанага мастацкага вобразу".

Таму й нічога дзіўнага, што, як мы ўжо ўспаміналі, „Сборник Императ. Академіи Наук, т. 85, С. Петербург, 1908, бач. 273, зазначае: „Да ліку самых выдатных памятнікаў „расейскае" літаратуры XII ст. належаць творы сьв. Кірылы Тураўскага. Значэньне гэтых твораў было вялікае ня толькі ў XII ст., але й у XIX ст."

Як мы бачым, сьв. Кірыла быў пад уплывам твораў вялікіх Айцоў Царквы, сваіх папярэднікаў. Аднак, ні адзін вучоны ня робіць яму ў гэтым ніякіх закідаў. І гэта зразумела, бо-ж, каб нешта вартаснае стварыць, неабходна быць перадусім на вышыні свае эпохі, апанаваць і прысвоіць сабе духовыя скарбы ўжо існуючыя. І праца, выкананая тут сьв. Кірылам, была вялізарная, бо-ж ён мусіў перадусім вывучыць старадаўнія мовы — грэцкую й гебрайскую, каб магчы чытаць ды разумець гэтыя творы.

Да XVI-XVII ст. у нашай сьв. Царкве панавалі ўплывы Біблійны й Візантыйскі. Біблійны ўплыў праявіўся ў літаратуры Візантыі асабліва ў IV ст. Пазьней Візантыя ня толькі асымілявала, але й моцна зьмяніла яго. І ўжо ў такой пераробцы Біблійны ўплыў праз Візантыю, разам з хрысьціянствам, перайшоў у Беларускую пісьменнасьць.

Пад Біблійным уплывам разумеюцца наступныя мамэнты: тэксты Старога Запавету, асабліва Прарокаў, глыбіня думкі, сіла пачуцьця, рыгарыстычны пагляд на чалавека й вялікая любоў да прыроды, тады як Візантыйскі элемэнт прадстаўляў сабою лагодны пагляд на чалавека, пэўную абыякавасьць да прыроды, ды розныя алегорыі. Аднак, у злучэньні гэтых абодвых мамэнтаў, яны прынясьлі да нас: спачуцьцё й любоў да чалавека й прыроды, сымбалізм, мэтафару й алегорыю, як аснову літаратурнае творчасьці. Істота сымбалізму наступная: між вонкавым і нутраным сьветам існуе таямнічая сувязь, якая сама сабою пранікае ў сьведамасьць чалавека й народу, і не падлягае ніякай кантролі. Аднак, гэтую сувязь людзі розна разумелі, у выніку чаго зьявілася алегорыя, творцам якое была Візантыя, якая ўжо выкарыстала Прытчы Ісуса Хрыста.

БІБЛІЙНЫ ЎПЛЫЎ. У творах сьв. Кірылы ён праявіўся ў частым ужываньні вобразаў Старога Запавету, асабліва Прарокаў. Аднак, сьв. Кірыла апранаў іх у свае собскія адзежы для лепшага зразуменьня сваімі вернікамі. Так, напрыклад, аб Псальме 64-м, вершы 13-14, сьв. Кірыла кажа на пропаведзі так: „Табе (Господзь) ўсякі твор на працу стварыў. Неба й зямля табе служаць: неба вохкасьцю, а зямля пладамі. Для цябе сонца сьвятлом і цяплом служыць, і месяц з зорамі ноч выбельваюць. Для цябе воблакі дажджом зямлю напойваюць, і зямля ўсякую траву, поўную насеньня, і дрэвы пладавітыя вырошчвае. Для цябе рэкі прыносяць рыбу, і лясы выкормліваюць зьвераў". А думку Псальму 9-га, вершы 4-5, 7-9, выяўляе так: „Ты паставіў яго (чалавека) уладыкаю над працаю рук Тваіх, усё пала-

жыў да ног яго: авец і валоў усіх, і дзікіх зьвераў, птушак нябесных і рыбу марскую, што ходзіць шляхамі морскімі".

У Нядзелю Расслабленага сьв. Кірыла так гаворыць ад імя яго: „Грахі мае расслабілі ўсе члены цела маяго. Богу малюся, і ня чуе мяне, бо беззаконьні мае падняліся вышэй галавы мае. Лекаром я раздаў ужо маёмасьць маю, але помачы атрымаць ня мог: няма зельля, што магло-б аблягчыць Божую кару. Знаёмыя пагарджаюць мною, блізкія мае ўстыдаюцца мяне, і я ўжо як чужы братом маім. Цярплю абліваючыся сьлязамі, абложаны хваробаю немачы мае, і ніхто ня прыйдзе адведаць мяне, адзін пакутую, нябачаны нікім"...

Гэтая прамова хворага ясна напамінае нам словы многастрадальнага Іава (Іаў 19, 13-14, 19) ды Псальмы Давіда (Пс. 37, 4-5 і 68:9, 21). І гэта адна з характарыстычных рысаў сьв. Кірылы. Усе ягоныя Пропаведзі, Словы й Павучэньні ўпрыгожваюцца біблійнымі тэкстамі, якія ён чула, для вернікаў зразумела, пабожна й з натхненьнем злучае й дапаўняе сваімі прыгожымі думкамі й словамі. З гэтага, між іншым, мы таксама бачым, што сьв. Кірыла добра ведаў усё сьв. Пісьмо дый стараўся зрабіць яго духоваю страваю для сваіх пабожных вернікаў. Акрамя таго, мы тут таксама бачым, што старазаветныя вобразы былі вельмі блізкімі чулай душы яго, адбіваліся ў ёй як у люстры дый выходзілі зь яе ўзбагачаныя ягоным вялікім дарам — натхнёнаю моваю.

ВІЗАНТЫЙСКІ ЎПЛЫЎ. Ён праявіўся ў сьв. Кірылы перадусім у алегорыі дый у самай форме твораў: доўгія сказы, параўнаньні й супрацьстаўленьні, пытаньні й усклікі, звароты, мэтафары й дыялёгі, а ўсё гэта аснова Візантыйскага красамоўства. Найлепшымі ўзорамі для сьв. Кірылы былі: сьв. Іоан Златаўсны, сьв. Кірыла Александрыйскі, сьв. Сімеон Логофэт і іншыя. Аднак, як зазначае Біяграф. Слоўнік, бач. 280, сьв. Кірыла Тураўскі пераймаў ад гэтых Айцоў Царквы толькі форму, але ніколі словы. Тут ён заўсёды быў поўнасьцю самастойны. Да гэтага, між іншым, яшчэ хочам далучыць адну нашую заўвагу, якая для нас мае першараднае значэньне, а гэта тое, што сьв. Кірыла гаварыў да сваіх вернікаў толькі іхнаю роднаю беларускаю моваю! І ў гэтым сэнсе ён, ня маючы сабе роўных, таксама вельмі дарагі для нас.

Найболей любым узорам для сьв. Кірылы быў сьв. ІОАН ЗЛАТАЎСНЫ (354-407). З аднаго боку, вялікі талент сьв. Кірылы, а з другога, дакладнае вывучэньне ўсіх твораў гэтага сваяго слаўнага папярэдніка дый захапленьне зьместам і формаю іх, былі прычынаю таго, што многія Царкоўныя Гісторыкі часта памылкова прыймалі некаторыя творы сьв. Кірылы за творы сьв. Іоана! Ф. Калайдовіч уважаў, што сьв. Кірыла й сьв. Іоан Златаўсны былі, быццам, блізьняты, а Качаноўскі хацеў бачыць у ім толькі папулярызатара сьв. Іоана. Аднак, пазьнейшыя гісторыкі, як Шэвыроў, Галубінскі й інш. поўнасьцю адкінулі гэтыя пагляды, матывуючы сваю думку тым, што між гэтымі двама зусім самастойнымі волатамі духа было толькі ПАДАБЕНСТВА характараў, якое выходзіла з іхнае аднолькава вялікае любові да Слова Божага й спасеньня душаў (Шевырев, Истор. Рус. Церкви, 1849, бач. 69). На падставе гэтага-ж граф. А. С. Увараў заўважае: „Ня дзіва, што сьв. Кірыла Тураўскага ўсе лічаць „рускім" Златаўсным!... Як мы ўжо ведаем з папярэдняга нумару нашага часапісу, гэтае „рускім" трэба чытаць — беларускім.

Вельмі цікавым для нас будзе й тое, што хаця сьв. Кірыла й паходзіў з багатае сямьі, аднак, ён і тут падобны да сьв. І. Златаўснага: ён таксама вельмі любіў бедных і ўсякім спосабам памагаў ім. У сваей пропаведзі аб Другім Прыходзе Спасіцеля нашага ён навет сказаў: „Бог ня так хутка выслухае праведных, як бедных!" У сваім жа казаньні на Вербніцу ён, між іншым, так зьвяртаецца да сваіх вернікаў: „Выйдзем зь любоўю, падобна народам, на спатканьне Яго. Пасьцелем, як рызы, нашыя цноты, усклікнем малітваю й лагоднасьцю, як дзеткі, пасьпяшым міластыняй патрабуючым і жабраком, пасьледуем пакораю й постам"... Гаворачы аб манахах, ён кажа: „Будзь слаўны не адзежамі багатымі, сьветлымі, але ўчынкамі добрымі! Ты, як сьвечка, вольны толькі да царкоўных дзьвярэй, а там будзь пакорны, калі-б навет з цябе, як з адзежы, анучу зрабілі!"...

А на Вялікдзень, між іншым, кажа: „Калі пастух прыляжа й засьне, а прабудзіўшыся пабачыць, што стада ягонае разыйшлося, дык хутка ўстаўшы, сьпяшыць сабраць стада сваё: так і Хрыстос, пасьля Сваяго Уваскрасеньня, зьбірае ангелаў і людзей у адзінае стада!"... Такімі прыгожымі параўнаньнямі-алегорыямі й мэтафарамі сьв. Кірыла карыстаўся часта. Вось, напрыклад, яшчэ адна зь іх, у форме супрацьстаўленьня, на Вялікдзень: „Учора я з разбойнікам распінаўся, а сяньня з Табою ўваскрос, учора з Лонгінам узываў — запраўды Ты, Сын Божы, а сяньня з ангеламі ўсклікаю: запраўды Хрыстос Уваскрос! Учора з Нікадымам з Крыжа здыймаў Цябе, а сяньня з Магдаленаю Цябе Уваскросшага бачу!"

Падобныя алегорыі й супрацьстаўленьні ўжывалі таксама ня толькі сьв. Іоан Златаўсны, але й сьв. Кірыла Александрыйскі († 444), сьв. Еўлогі († 608) і інш. Айцы Царквы. Аб гэтым мы будзем яшчэ гаварыць.

*С. Клім*

---

## У ВЯЛІКУЮ СУБОТУ (ПЯТНІЦУ)

СЛОВА ў сьвятых Айца нашага КІРЫЛЫ, епіскапа Тураўскага, аб паховінах Цела Господа нашага Ісуса Хрыста, і аб плачы Прачыстае Багародзіцы, і аб Язэпу, што з Арымафеі прыйшоў у Ерусалім.

Улюбленыя! Хто выкажа сілы й цуды Господнія (Пс. 105, 2), або хто можа расказаць аб Страсьцях Яго? Сонца бо, бачучы пакуты Госпада нашага, пацямнела, і месяц з зоркамі страцілі сьвятло сваё у часе цярпеньняў Спаса. Язэп жа, бачучы гэтыя вялікія цуды, дзівіўся ад страху, прыйшоў з Арымафеі ў Ерусалім, і знайшоў Цела Ісуса прабітае на Крыжы, і Маці Яго Марыю, што з адзіным вучнем тут была, і з болем у сэрцы горка плакала, гаворачы: Усякае стварэньне спачувае Мне, Сыне, бачучы Цябе без віны забітага. О, гора Мне, Дзіця Маё, Сьвятло й Творца сьвету. Сяньня плачу Я: насьмешкі й біцьцё, зьдзекі, увязьненьне й апляваньне сьвятога Аблічча Тваяго ад беззаконьнікаў за дабро Сваё Ты прыняў. О, гора Мне, Сыне нявінны! Як зьняважаны Ты быў і на Крыжы сьмерць перажыў! Як Цябе цярновым вянком вянчалі й воцтам з жоўцю паілі,

Прачыстыя Твае робры пікаю прабівалі! Жахнуліся Неба й зямля ад гневу дзеля беззаконнага іудэйскага праступства, сонца пацямнела й каменьні патрэскалі, выяўляючы гэтае іхнае шаленства.

Бачу Цябе, любае Дзіця Маё, разьдзетым вісячага на Крыжы без душы й зроку, і горкі боль прабівае душу Маю. Дзіця, не магу Цябе без душы бачыць, хацела-б памерці з Табою, бо ўжо радасьці няма для Мяне, бо-ж Маё Сьвятло, Надзея, Жыцьцё, Сын і Бог на дрэве пагас. Як жа Мне разумець, Дзіця, што Габрыэль дабравесьціў Цябе Сынам і Богам, названым Спасам, ад грахоў Адкупіцелем. Цяпер Цябе, як зладзея бачу, павешанага сярод разбойнікаў, мёртвага, пікаю прабітага, таму цяжка цярплю й сумую: хацела-б з Табою, Дзіця, памерці, бо-ж Мае радасьці й вясельля, Сына й Бога, няма. Гора Мне, Сыну! Як Маці, пры нараджэньні Цябе ў бядзе, Я так не цярпела, як цяпер пакутую, бачучы Цела Твае прыбітае да дрэва Тваяго. Праслаўнае бо Раство Ісуса, а цяпер страшное Тваё забойства. З улоньня без насеньня Ты адзіны выйшаў, пячаць Маяго дзявоцтва не парушыў, Мяне, як Маці Сваяго ўцелаўленьня паказаў і Дзеваю пакінуў. Гэта Твае, Дзіця, за Адама пакуты, але плачу з болі душы Мае й дзіўлюся глыбіні тайны Твае. Слухай Неба, і мора з зямлёю, зразумейце горыч Маяго плачу. Вось ваш Творца ад сьвятароў пакуты прыймае, адзіны праведнік за грэшнікаў. Сяньня спаткала Мяне прароцтва Сімеона: меч Мне душу сяньня прабівае, бачучы зьдзекі жаўнераў над Табою. Гора Мне, каго да плачу паклічу, з кім магу праліць мора сьлёзаў Маіх: усе бо Цябе, навет прыяцелі, пакінулі, атрымаўшы насалоду цудаў Тваіх, Хрысьце. Дзе 12 вучняў, дзе вярхоўныя Апосталы? Той Цябе подступам фарысеям здрадзіў, другі дзеля страху іудэйскага з клятваю адрокся, быццам ня ведаючы, што мела стацца з Табою. Але, адна, Божа Мой, раба Твая, стаю пры Табе з абаронцам словаў Тваіх, з любым вучнем Тваім. Гора Мне, Ісусе, дарагое імя! Як стаіць зямля, адчуваючы Цябе на сабе, што на Крыжы вісіш, Цябе, Каторы спачатку на водах зямлю заснаваў і многіх сьляпых прасьвятліў?

Язэп жа, бачучы, як горка плача Марыя, падыйшоў да Яе. Яна жа зь вялікаю посьбаю да яго зьвярнулася й кажа: Пастарайся, мілы Язэп, пайдзі да Пілата, папрасі зьняць з Крыжа Цела Вучыцеля тваяго, Маяго Сына й Бога, падыміся, прычасьніку Навукі Хрыстовае, выпрасі Цела бяздушнае, прыбітае да дрэва, прабітае ў робры, пастарайся дзеля слаўнага вянка, што атрымаеш: пахвалу й паклон тут, а на Небе жыцьцё вечнае.

Узварушыўся Язэп сьлёзнымі просьбамі, не пабаяўся страху ад фарысеяў, і не пашкадаваў жыцьця сваяго, абы толькі Хрыста мець з сабою. Адважна ўвайшоў да Пілата й кажа яму: Пілаце, дай мне Цела дзіўнага таго Ісуса, укрыжаванага між двама разбойнікамі, Каторага архірэі дзеля зайздрасьці ачарнілі, а жаўнеры зьняславілі бяз праўды. Дай мне Цела Ісуса Хрыста, Каторага фарысеі царом называлі. Дай мне Цела Таго, пра Каторага сказаў Кайафа, што лепш Яму аднаму за ўсіх памерці. Дай мне Цела гэтага Укрыжаванага, Каторага пры Уваходзе ў Ерусалім спатыкалі з пальмамі дзеці й усклікалі: Асанна сыну Давідаву, голас Каторага вярнуў душу Лазара на чацьверты дзень па сьмерці! Дай мне Цела гэтага памершага,



Маці Каторага не пазнала мужа, Дзеваю радзіла, аб Каторым у часе Хрышчэньня Яго ў Іардане Айцец апавясьціў: Гэта Сын Мой улюблены, Яму спагадаю дый аб Каторым Дух Сьвяты праз Ісайю прамовіў: як авечка на зараз ведзены будзе беззаконьнікамі, і адданы будзе сьмерці. Дай жа мне, Пілаце, Цела Ісуса зьняць з дрэва, бо-ж вам няма карысьці з памершага, усё роўна ўжо на Ім споўніліся ўсе прароцтвы: „Бо вось усе нашыя грахі й немачы Ён панясе, перацерпіць, ранамі бо Яго ўсе паздаравеюць".

I ўпрасіў Язэп Пілата, і даў ён Цела Язэпу на паховіны. I купіў плашчаніцу, і, разам з Нікадымам, зьняў Цела Ісуса з Крыжа, і завінулі Яго ў плашчаніцу, і памазалі міррам. I заплакаў моцна Язэп, гаворачы: Сонца, што не заходзіць, Творца ўсяго сьвету, Госпадзі, як дакрануся да Прачыстага Цела Тваяго, Каторае й нябесным сілам непрыступнае? Якою плашчаніцаю абвіну Таго, Каторы воблакамі неба абвінае, або якое мірра выльлю на сьвятое Цела Твае, Катораму дары на каленях прынясьлі ўсходнія цары й як Богу пакланіліся, дый прадстаўляючы Тваю сьмерць за ўвесь сьвет, якія жалобныя песьні засьпяваю Табе, Уладыка, Каторага Херувімы ў Нябёсах велічаюць? Як панясу Цябе на руках маіх, рукою ўвесь сьвет трымаючага? Як палажу Цябе ў гэты бедны Гроб, нябёсы ўмацаваўшага словам Сваім, з Айцом і Духам на Херувімах прабываючага, усё бо Ты дабраволька перацярпеў: ідзеш бо, Уладыка, у пекла, каб Адама зь Еваю ўвясьці ў Рай і другіх памершых уваскрасіць Боскаю сілаю Сваею!

I прамовіў Ісус да Язэпа: Чаму нясеш Мяне й не сьпяваеш? I сказаў Язэп: Што загадаеш сьпяваць, Госпадзі? I адказаў Гаспадзь: Сьпявай — Сьвяты Божа! I пачаў Язэп з Нікадымам сьпяваць: Сьвяты Божа, Сьвяты Моцны, Сьвяты Несьмяротны, памілуй нас! Прыгэтым Язэп прамовіў: Пахаваю Цябе, Божа мой, як Ты мяне навучыў Духам Тваім Сьвятым.

I прынясьлі, і палажылі ў Гроб. Чыстая жа Дзева Марыя ў сьлязах прамовіла: Ніякае для Мяне пацехі няма ўжо, бо сьвятло Маё й радасьць Мая пахаваныя ў Гробе. О, Жоны Міраносіцы, галасеце моцна й плачце са Мною: бо вось сьвятло Маё і вашае пагашанае й у Гроб паложанае. Сяньня Я свае надзеі, радасьці, і весялосьці, Сына й Бога, пазбаўленая. Гора Мне! У болю серца Маяго сонца ўжо ня зойдзе! Божа прадвечны, Валадару сусьвету, як Ты ў Гроб зыйшоў, і ці не прамовіш ужо ані слова да рабы Твае, Слова Божае? Ці не абдорыш, Уладыка, Цябе нарадзіўшую? Бо баюся падумаць, што ўжо голасу Тваяго не пачую, ні дабраты Аблічча Тваяго не пабачу. Бо ўжо адыйшоў ад вачэй Маіх Сын Мой, але Я не адыйду ад Гробу Тваяго, Дзіця Маё, ані сьлёзаў не перастане праліваць раба Твая. Гора Мне, Сыну Мой! Навошта Ты Мяне адну пакінуў? Малю Цябе, Сыну й Божа Мой: раны сэрца Маяго аздараві, пацеш! Сыну, Дзіця Маё, уваскрэсьні на трэйці дзень, як Ты Сам абяцаў, суцішы болі Мае нявымоўныя, і Мой смутак замяні радасьцю, бо Ты можаш, калі захочаш, бо й у Гроб пайшоў Ты дабравольна.

I Гасподзь тайна прамовіў: О, любая Маці Мая! Як можа высахнуць невычэрпная крыніца шчадротаў Маіх: тварэньні рук Маіх жа-

даючы спасьці, Я на пакуты й сьмерць пайшоў, але на Трэйці Дзень Уваскрэсну для праслаўленьня на Небе й на зямлі!

Дзева жа й Маці, пачуўшы словы Госпада, ціха пайшла кажучы: Хвала Міласэрдзю Тваяму, Хрысьце Божа наш, і кланяюся Міласьці Тваей, Божа, Чалавекалюбча, Каторы тварэньне Свае пажадаў спасьці!

А мы, грэшныя, хвалім і славім Прэсьвятую Тройцу, Айца, Сына і Сьвятога Духа, сяньня, і заўсёды, і навекі вечныя. Амінь.

(Заканчэньне будзе)

## АБ ПАСТЫРСКІМ СЛУЖЭНЬНІ

*„Вы — соль зямлі. Вы — сьвятло сьвету” (Мц. 5, 13-14).*

Пастыры, з Ласкі Божае, узбагачаныя найвышэйшымі Дарамі ў Таінстве Сьвяшчэнства, Дарамі Духа Сьвятога. Гэта выбраныя Богам людзі, якім Ён даў вялікую ўладу „вязаць” і „разьвязваць” (Мц. 18, 18). Гэта людзі, якім даручана слаўнае, вялікае заданьне: Прасьвятленьне й ВЕЧНАЕ СПАСЕНЬНЕ душаў нашых.

Зьвяртаючыся да вучняў Сваіх, а праз іх і да ўсіх іейных наступнікаў — ПАСТЫРАЎ, Спасіцель наш сказаў ім: „Вы — СОЛЬ зямлі. Вы — СЬВЯТЛО сьвету”. Вось так вобразна Ён перадаў усю істоту, усю красу й глыбіню Пастырскага Служэньня.

Так, Пастыр павінен быць СОЛЬЛЮ зямлі. Што гэта значыць? Соль мае сілу перадаваць сваю ўласьцівасьць — салёнасьць тым рэчам, зь якімі яна злучаецца. Так і добры Пастыр не павінен скрываць для сябе істоту душы свае: Веру, Надзею й Любоў, і хрысьціянскія цноты, а павінен стала, пільна, рашуча й адкрыта вызнаваць гэтыя асновы веры ў Бога, самаахвярна сеяць Слова Божае, пашыраць Навуку Хрыстовую, ушляхатняць сэрцы людзкія. Словам, рабіць сваіх вернікаў тым, чым ён сам з Ласкі Божае стаў, падобна як і соль робіць салёнымі ўсе рэчы, зь якімі злучаецца.

Ужо малая жменька солі робіць шмат рэчаў салёнымі. Так і Пастыр можа дабрадзейна ўплываць сілаю свае веры й праведным жыцьцём на вялікую колькасьць сваіх вернікаў, ачышчаючы іх ад няцнотаў розных. Соль не зьмяняе ані істоты, ані выгляду рэчаў, а толькі прыдае ім асаблівы смак. Так і Пастыр не зьмяняе ані вонкавага выгляду чалавека, ані ягоных духовых скарбаў — традыцыяў і звычаяў, а толькі памагае яму ў змаганьні з рознымі няцнотамі й напаўняе яго насалодаю Любові й Ласкі Божае, сьв. Евангельскае Навукі Хрыстовае.

Соль мае дабрадзейную сілу: бароніць рэчы ад гніеньня й сапсуцьця. Так і Пастыр сольлю Слова Божага, сваею мудрасьцю й прыкладам бароніць сваіх вернікаў ад духоўнага гніеньня: спакусаў, блудаў і маральнага заняпаду як у жыцьці асабістым, так і сямейным і грамадзкім. І тут Пастыр павінен быць пільным і вытрывалым, бо як соль, што мае востры смак, але робіць рэчы прыямнейшымі для ежы, так і добрая праца яго памалу ўшляхатняе сэрцы людзкія, робіць іх лепшымі, прыямнейшымі як для сябе самых, так і для іншых.







Але што робіць Пастыра СОЛЬЛЮ для людзей? Гэта не ягоныя сілы людзкія, а Шчодрасьці Духа Сьвятога, Ласка Божая. Яны асьвячваюць яго ў Таінстве Сьвяшчэнства дый праз яго лечаць усякія немачы людзей. Бяз гэтых Дароў Духа Сьвятога й Ласкі Божае ня толькі Пастыр, але й кажны чалавек, па слову Спасіцеля нашага, „гаротны, мізэрны, убогі, сьляпы й голы” (Адкр. 3, 17). Ясна, такі ня можа быць сольлю для другіх, бо сьляпы ня можа вясьці сьляпога (Лк. 6, 39). Вось жа Пастыр павінен дбаць, каб самому ня страціць гэтых Дароў Духа Сьвятога, каб ня стаць тою „сольлю сапсутаю, што ўжо годная хіба толькі на патаптаньне” (Мц. 5, 13).

І не надарэмна вучыць сьв. Апостал Павал сваяго духоўнага сына, Эфэскага Епіскапа Цімафея: „Напамінаю табе, каб падаграваў Дар Божы, які ёсьць у табе праз узлажэньне рук маіх” (2 Цім. 1, 6). Так, Пастыр павінен гэты слаўны Дар Божы стала падагравацъ, зь любоўю перахоўваць, каб Ён не адыйшоў ад яго, бо пасьля ўжо цяжка аднавіць Яго, як і соль, страціўшую сваю сілу.

Добры Пастыр павінен быць СЬВЯТЛОМ сьвету. Так Хрыстос, наш Пастыраначальнік, заклікае ўсіх Пастыраў быць АДБІЦЬЦЁМ Ягонага Сьвятла, бо адзіна Ён ёсьць СЬВЯТЛОМ СЬВЕТУ (Іо. 9, 5). Таму й Пастыр можа сьвяціць другім толькі тады, калі сам гэтае Сьвятло Божае мае, калі яно праменюе праз яго.

Будучы натхнёным гэтым Сьвятлом Божым, добры Пастыр, паводле слова Госпада, павінен стаць СЬВЕТАЧАМ для ўсіх, асьвятляць цемру, бо-ж „сьвятло не запальваюць для таго, каб яго хаваць, а каб яно асьвятляла цемру”, цемру нявуцтва, няцнотаў, маладушша й зьняверра. Ён павінен гэтым Сьвятлом зь Неба саграваць і пацяшаць сэрцы людзкія, прасьвятляць розум іх, распальваць любоў да Бога й да бліжніх.

Дзеля гэтага Пастыр павінен старацца, каб гэтае Сьвятло Божае стала зьзяла перадусім у ягонай собскай душы, бо толькі тады вернікі яго ачысьцяць сэрцы свае, адкрыюць іх для Госпада Бога, будуць імкнуцца да спаўненьня сьвятое волі Яго. Асабліва ў цяперашнія цяжкія часы, калі Навуку Хрыстовую й усё нашае жыцьцё стараюцца зьняславіць і зруйнаваць розныя сілы пекла, перадусім Пастыр павінен памятаць, што ён: СОЛЬ зямлі й СЬВЯТЛО сьвету.

*Прат. Хв. Данілюк*

### БОГ — НАДЗЕЯ Й ПЕРАМОГА ЦЕРПЯЧЫХ

Вярхоўны судзьдзя ЗША, Вільям Доглес, які нядаўна адведаў СССР, падаў у журнале „Лук” вельмі цікавыя весткі адносна рэлігійнага жыцьця ў ім. Між іншым, ён кажа: „Антырэлігійнае ўзгадаваньне пачынаецца там ужо ад ясьляў і дзіцячых садкоў паведле „запавету” Леніна: Дайце нам дзіця на восем гадоў, і яно забудзецца на ўсякую рэлігію, застанецца назаўсёды бальшавіком”.

Спачатку В. Доглес меў уражаньне, што бальшавікі запраўды выканалі гэты „запавет” сваяго павадыра, бо-ж яго зьдзівіла тое, што цэркваў у СССР надта мала дый яны вельмі бедныя. Запраўды, думаў ён, рэлігія тут „выветрваецца”. Скора, аднак, ён зусім зьмяніў гэтую сваю думку, бо ўсюды пабачыў, што й маладыя бацькі хрысьцяць дзяцей у царкве, што шмат сужэнцаў вянчаюцца там, усюды цэрквы перапоўненыя ня толькі старымі, але й моладзьдзю, а што яшчэ больш зьдзівіла яго, дык

гэта тое, што каля цэркваў ён пабачыў самаходы! А я, кажа ён, ужо ведаў, хто ў СССР мае самаход, ясна, не селянін і не работнік. „Так", канчае аўтар, „ніякі тэрор ня можа зьнішчыць рэлігію, бо ня толькі 8, але й 38 гадоў не памаглі!"

Яшчэ болей цікавы артыкул апублікаваў В. Коларт у лёнданскім журнале „Таблет" на тэму: „Жывыя карэньні рэлігіі ў СССР". Пасьля сьмерці Сталіна, кажа ён, савецкія павадыры мусілі разьвітацца з многімі ілюзыямі, адною зь якіх была іхная вера-ілюзыя, што рэлігія памалу зьнікне. Тымчасам, ня гледзячы на розныя перашкоды, забароны, моцную прапаганду супраць яе й цяпер, яны ніяк ня могуць запярэчыць таго факту, што лік веруючых стала ўзрастае, што цэрквы ўсюды ўсё болей запаўняюцца вернікамі.

Але, прадаўжае аўтар, савецкіх павадыроў непакоіць ня толькі гэты сталы ўзрост рэлігійнага пачуцьця сярод масаў насельніцтва. Многа болей іх непакоіць той факт, што рэлігія ўжо пачала праяўляцца там, дзе яны аб гэтым і ня думалі. Як ужо ня раз зь вялікаю трывогаю падавала савецкая прэса, у многіх месцах рэлігійнасьць была выкрытая сярод інтэлігенцыі, больш таго, навет сярод заслужаных сяброў партыі! Многія камсамольцы, а навет і сябры партыі хрысьцяць сваіх дзяцей і вянчаюцца ў царкве. Прагэтым часам ідуць на розныя хітрыкі, каб замаскаваць сябе, але некаторыя й гэтага ня робяць, а зусім адкрыта вызнаюць сваю веру ў Бога. Так, напрыклад, вучоны супрацоўнік Акадэмічнага Інстытуту у Ленінградзе, выдатны біялёг Веньямін Багданаў, стары сябра партыі, адмовіўся зрабіць даклад на бязбожную тэму, адкрыта заяўляючы, што ён веруючы! А падобных выпадкаў, навет у савецкай прэсе, было ўжо пададзена ня мала. Гэты самы ўзрост рэлігіі заўважаецца ў арміі й у флёце.

І аўтар канчае так: „І вось тут у вялікім хаосе памалу нараджаецца новы чалавек, новы рух, новая сіла, якая пачынае будаваць сваё жыцьцё на асновах хрысьціянскае маралі й рэлігіі. Тут ужо ніякая бязбожная прапаганда ня дзее".

Так, Божыя млыны мелюць памалу, але цэўна, кажа пагаворка. Відаць Гасподзь Міласэрны ўжо зьмілаваўся над пакутамі церпячых людзей і народаў у савецкім пекле й узмацніў Веру й Надзею іх на скорае вызваленьне. Людзі там пачалі памалу траціць страх, бо адчулі голас душаў сваіх: Бог з намі, а Ён — нашая Надзея й Перамога! І, пад уплывам гэтае Веры й Надзеі церпячых, да іх пачалі далучацца многія заблудзіўшыя й засьлепленыя зь лягеру слугаў шатана.

### РАЗЬВЯНЧАНЬНЕ ІДАЛА — СТАЛІНА

Для прэсы вольнага сьвету гэта толькі вялікая палітычная сэнсацыя. Праўда, сэнсацыя не малая, прыймаючы пад увагу, што на працягу 29-ці гадоў Сталін быў запраўдным ідалам-богам для ўсіх большых і меншых душагубаў у савецкім пекле, а цяпер вось ужо скора ягоная мумія мае быць выкінутая з маўзалею Леніна. Але ці ня пойдзе сьледам за першым і гэты апошні ідал бязбожнікаў таксама на сьметнік? Вось гэтае пытаньне й ёсьць тым сэнсам сучасных падзеяў у краіне бязбожнікаў, над якім, нажаль, прэса вольнага сьвету ня хоча падумаць.

Гасподзь наш Ісус Хрыстос сказаў: „Кажны з вас сам сабе судзьдзя". Вялікія словы. Хто асудзіў Сталіна? Тыя, што верна служылі яму, што зрабілі яго сваім ідалам. Тыя, што па ягонаму загаду пільна выконвалі ўсе ягоныя страшныя праступствы. Словам, былі й ёсьць тымі самымі праступнікамі, што й гэты іхны ідал. Вось жа, асудзіўшы яго, яны гэтым самым асудзілі й самых сябе, асудзілі й усю сваю бязбожную сыстэму, а гэтым і „самога" арганізатара яе — душагуба Леніна. І гэта толькі воля Божая. Ён доўгацярплівы, але адначасна й Судзьдзя Справядлівы, кажнага ўзнагараджае й карае па заслугах яго. Таму кажны, хто хоць крыху верыць у Яго, павінен зразумець, што Ён тут ясна кажа нам: „Мая ўлада. Я — Творца сьвету й Законаў яго, таму скіну з пасаду ўсіх, хто гэтыя Законы Мае парушае й ганьбіць! А вы, церпячыя й любячыя Мяне, радуйцеся! Бо прыйшоў час гневу Маяго на ўсіх слугаў шатана, скіну іх у бязодню на пагібель, і будзеце цешыцца Свабодаю Маею"!

Вось так, дарагія браты й сёстры, будзем разумець апошнія падзеі ў дзяржаве бязбожнікаў. Ужо распачаўся Суд Божы над імі! Ужо зьбліжаецца дзень Перамогі Божае Праўды й Свабоды, бо з намі Бог!

**Б. Д.**

---

## ХРОНІКА

**САКАВІКОВЫЯ УРАЧЫСТАСЬЦІ.** Кажны народ слушна ганарыцца сваім дзяржаўным сьвятам, урачыста абходзіць яго, дзякуе Госпаду Богу й просіць Ласкі Ягонае на будучыню. І мы, беларусы, можам цешыцца й ганарыцца, што й мы маем нашае дзяржаўнае сьвята, наш векапомны Акт 25-га Сакавіка, калі была абвешчаная Незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі! Таму й мы маем за што дзякаваць Усявышняму й прасіць Ласкі Яго для нашае канчатковае перамогі.

Ужо ад пэўнага часу нашыя Сакавіковыя Урачыстасьці запраўды радасныя й велічныя, бо іх ачоліла нашая сьв. БАПЦарква з сваімі Архіпастырамі й Пастырамі. Па ўсім вольным сьвеце: у Амэрыцы, Канадзе, Англіі, Бэльгіі й Аўстраліі нашае самаахвярнае Духавенства, разам з нашымі пабожнымі вернікамі, горача дзякавала Госпаду Богу за тую Ласку Яго, якую Ён праявіў да нас 25-га Сакавіка 1918 г., дый палымянна маліліся да Яго за скорае вызваленьне нашае любае Маці-Беларусі з сучаснае апошняе няволі.

Асабліва велічныя былі гэтыя ўрачыстасьці ў НЮ-ЁРКУ, на якія сабраліся беларусы таксама з Саўт-Рывэру, Ню-Брансьвіку, Стамфорду, Спрынгфільду й іншых ваколіцаў. Сёлета яны былі зарганізаваныя Акруговым Аддзелам БАЗА ў Ню-Ёрку, на чале з ягоным Старшынёю, Сп. К. Мерляком.

Урачыстасьці распачаліся велічнаю Службаю Божаю, якую адправілі Іх Высокапрэальвяшчэнствы, Архіепіскап Васіль і Архіепіскап Богдан з УПЦарквы пад Юрысдыкцыяй Царгародзкага Патрыарха ў асысьце Пратаіерэяў, Айцоў Хведара, Івана й Рамана. Нязвычайна прыгожа сьпяваў Царкоўны Хор пад кіравецтвам дырыгента, Сп. А. Каптуровіча. Царква была напоўненая некалькі сотнямі вернікаў. Наперадзе, побач з амэрыканскім, красаваў наш дзяржаўны сьцяг.

Аб духовых перажываньнях вернікаў у часе Службы Божае цяжка гаварыць, бо гэта быў адзін цудоўны гімн ўдзячных сэрцаў беларускіх, які любым Госпаду фіміамам узносіўся да Прастолу Яго. Тым болей яны былі расчуленыя й усхваляваныя, калі Уладыка Васіль распачаў сваю пропаведзь, у якой, між іншым, нязвычайна глыбока й вобразна выявіў вынік Ласкі Божае да нас, калі сказаў: „Усе вы ведаеце аб тых натхнёных прадбачаньнях нашых старых мудрых людзей, якія апавядалі сваім суродзічам, як нашыя Цэрквы, Замкі, а навет і цэлыя гарады зьнікалі, прападалі пад ваду. Але, апавядалі гэтыя пабожныя людзі, яны ня зьніклі НАЗАУСЁДЫ бо вось царкоўныя званы ўсьцяж зьвіняць там пад вадою й гавораць нашаму народу: ня сьпі, змагайся за Праўду Божую, і прыйдзе час, калі Гасподзь Міласэрны Сваею магутнаю рукою падыме нас зпад вады, ізноў зазьзяем мы на паверхні, і скажа вам Гасподзь: „Вы былі верныя Мне, змагаліся за Праўду Маю, душы свае аддавалі за другаў сваіх па слову Маяму, таму цяпер радуйцеся, няхай званы вашыя ўжо назаўсёды цешаць вас Свабодаю Маею!"

— Вось чаму радасьць нашая сяньня такая вялікая: бо гэты слаўны час ужо прыйшоў! Бо вось Званы й Замкі нашыя ўжо паказаліся над вадою, ужо выходзяць з бязодні свае, ужо пачынаюць цешыць нас! Гэта нашая сьв. БАПЦарква, гэта нашая

БНРада з Прэзыдэнтам і Урадам на чале! Ніякая бязбожная сіла ня здолела патапіць іх ізноў! Яны ўжо непарушна стаяць перад вачамі нашымі, непахісна змагаюцца за поўнае зьдзейсьненьне Волі Божае — нашае Свабоды!"

Так, аднадумна адпавядалі сэрцы ўсіх вернікаў на гэтыя натхнёныя словы Уладыкі, мы шчасьлівыя, што дажылі да гэтага слаўнага мамэнту Ласкі Божае да нас, ніхто ўжо нас не пераможа, бо з намі Бог! І з гэтым радасным пачуцьцём сэрцы ўсіх вернікаў злучыліся разам з нашымі Архіпастырамі й Пастырамі ў велічную хвалю падзякі Госпаду на Малебне за Беларусь, які быў закончаны Малітваю за Беларускі Народ і нашым царкоўным гімнам „Магутны Божа". І ўсе толькі шкадавалі, што ўжо закончыўся гэты іхны вялікі баль духовы.

Але ўсе ўжо сьпяшылі на іншую радасьць, на Акадэмію ў прыгожай залі. І Акадэмія была вельмі ўрачыстая, бо ўпяршыню яе ўшанавалі, акрамя ўспомненых Архіпастыраў і Пастыраў, Архіепіскап Пэль, Епіскап Ф. Уілкі, Прэзыдэнт Індыйскіх хрысьціянскіх цэркваў, др. а. Р. Ш. Модак, з сваімі сьвяшчэньнікамі, Прэзыдэнт УНР др. Вітвіцкі, амэрыканскі Кангрэсмэн Дорн, і шмат прадстаўнікоў паняволеных народаў, прывітаньні якіх занялі каля дзьвёх гадзін. Нязвычайнае ўражаньне зрабілі на ўсіх прысутных абвешчаньні 25-га Сакавіка Беларускім Днём мэрам Нью-Ёрку й двама губэрнатарамі. Пасьля даволі ўдалае мастацкае часткі адбыўся банкет.

Нажаль , з браку месца, мы ня можам падаць прабегу гэтых урачыстасьцяў у іншых нашых асяродках. Толькі коратка ўспомнім аб АДЭЛАІДЗЕ, Аўстралія. Службу Божую й Малебен адправіў тут Прат. а. М. Шчурко разам з грэцкім Іераманахам а. Макарыюсам пабеларуску й пагрэцку. Айцец Міхаіл сказаў вельмі чулую пропаведзь, якая не аднаго кранула да сьлёз. Пасьля адбылася Акадэмія на чале з Прэзыдыюмам у складзе: Сп. Сп. М. Рамановіча, І. Беразоўскага й Грыцука. Рэфэраты прачыталі Сп. Сп. П. Ханяўка, У. Оковіта й інж. П. Трысмакоў. Вельмі прыгожа прывітаў беларусаў Сп. І. Сторожук, прадстаўнік ад украінцаў. На заканчэньне быў прасьпяваны Нацыянальны гімн. Аднак, прысутныя яшчэ праз даўжэйшы час з насалодаю слухалі нашы народныя песьні з плітак і дзяліліся сваімі рознымі ўспамінамі з мінулага й надзеямі на будучыню. Усе былі задаволеныя, бо ім здавалася. што яны не ў Аўстраліі, а ў роднай Беларусі.

**Высокапрэасьвяшчэньнейшых Уладыкаў нашых, Архіепіскапаў СЕРГІЯ й ВАСІЛІЯ, Высокапрэпадобных: Архімандрыта а. ДАНІЕЛЯ, Пратаіерэяў Айцоў ХВЕДАРА, СЬЦЯПАНА й МІХАІЛА, учечэсных Айцоў АЛЯКСАНДРА, АУГЕНА, БАРЫСА, ЕВФІМІЯ, МІХАІЛА, МАКАРЫОСА й КАЛІСТРАТА, дастойных Дырыгентаў, хвальныя Царкоўныя Рады, і ўсіх вернікаў сьв. БАПЦ сардэчна вітае зь Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам УВАСКРАСЕНЬНЯ ХРЫСТОВАГА!**

**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

**ЦАРКОЎНАЯ РАДА БАПЦ**
**ў Нью-Ёрку**

**"THE VOICE OF THE CHURCH"**
**Periodical for the Byelorussians of Orthodox Faith**
**Published by the Byelorussian Autocephalic Orthodox Church**
**Editor: 108 Wyckoff St., Brooklyn 2, N. Y., N. Y., Tel.: ULster 2-7552**